# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

19 сакавіка 1999 №22 кошт 1 літ

*«Гісторыя вучыць, што пазбавіцца ад таталітарных рэжымаў мірным шляхам ня так проста. І калі ў Рэспубліцы Беларусь зьявілася гэткая магчымасьць, дык было б проста злачынствам перад гісторыяй, сваімі дзецьмі ды ўнукамі ня выкарыстаць гэтага...»*

Сямён Шарэцкі

**Як вядома, група апазыцыйных дэпутатаў Вярхоўнага Савету РБ 13-га скліканьня на чале з Старшынёю Сямёнам Шарэцкім выканала свой абавязак перад дзяржавай, народам і Канстытуцыяй 1994 году, якая адна прызнаецца за дзейсную міжнароднай супольнасьцю, і назначыла на 16 траўня прэзыдэнцкія выбары. На наш погляд гэта вельмі мужны й палітычна сьпелы крок тых народных абраньнікаў, каторых не зламалі ніякія рэпрэсіі дыктатарскага рэжыму, каторыя засталіся верныя Канстытуцыі. У гэтым вялікая заслуга Сямёна Шарэцкага, які апошнімі гадамі ў няроўным змаганьні з прамаскоўскай дыктатурай нязьменна стаяў і стаіць на незалежніцкіх, дзяржаўных пазыцыях. На старонках гэтага й наступнага нумару «Руні» мы будзем публікаваць самыя разнастайныя матар'ялы датычныя плянуемых апазыцыяй прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі.**



## 25 САКАВІКА

**Хлопчыкі падпальваюць салому –
хай гнілое паліцца, гарыць!
Выбраўся на золку з буралому
наш мядзьведзь, заспаны і стары.**

**Не расчэсваюць дзяўчаты косаў.
не гатуюць ежы на агні.
На ўраджай гарэхаў у нябёсаў
просяць: «Дожджык-дожджык, секані!»**

**Некалі зьвіла гняздо зязюля...
Зьнішчылі зязюліну сям'ю.
Потым наш урад на беспрытульле
заснаваў рэспубліку сваю...**

**Зьвеставаньне – сьветлае здарэньне,
бусьлікаў вяртаньне і надзей.
Нібы сонейка, сястрыца Рэня
асьвяціла хатку ў гэты дзень.**

**Зьвеставаньне – Божае пасланьне
Арханёл Марыі абвясціў.
Будзе ў нас Хрыстова Зьвеставаньне,
толькі папасьціцца трэба ўсім.**

*Данута Бічэль-Загнетава*

Віншуем нашых чытачоў, беларусаў усяго сьвету, нашых прыхільнікаў у розных краінах з найвялікшым нацыянальным беларускім сьвятам — Днём Незалежнасьці, днём, калі 25 Сакавіка 1918 году паняволены беларускі народ абвесьціў сваю незалежную, сувэрэнную Беларускую Народную Рэспубліку!

*Рада Таварыства Беларускай Культуры ў Літве*

# БЕЛАРУСЬ НАПЯРЭДАДНІ ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ

## 1. Гісторыя пытаньня

У 1994 годзе Рэспубліка Беларусь з парляманцкай сталася прэзыдэнцкай. Аляксандар Лукашэнка перамог бясспрэчна, народ за яго прагаласаваў. А зараз у Беларусі па-сутнасьці склалася ўнікальная сытуацыя, якой, напэўна, няма сёньня ў ніводнай краіне. Па Канстытуцыі 1994 году прэзыдэнт абіраецца на 5 гадоў. Адпаведна, у 1999 годзе паўнамоцтвы Аляксандра Рыгоравіча паводле гэтай Канстытуцыі заканчваюцца. Аднак 26 лістапада 1996 году была прынятая новая Канстытуцыя, ці то ўнесеныя папраўкі да папярэдняй: афіцыйна яна называецца «Новай рэдакцыяй Канстытуцыі 1994 году з дапаўненьнямі й зьменамі прынятымі на рэфэрэндуме 1996 году», дзе за прэзыдэнтам застаецца той самы пяцігадовы тэрмін праўленьня, але розьніца ў тым, што адлік тэрміну прэзыдэнцтва пачынаецца зь лістапада 1996-га. Рэфэрэндум жа 1996 году шэрагам міжнародных арганізацый і бальшынёю эўрапэйскіх краінаў ня быў прызнаны легітымным, у зьвязку з чым і склалася ўнікальная сытуацыя: адна частка нашага грамадзтва прызнае Канстытуцыю 1994 году ды лічыць, што выбары прэзыдэнта павінныя адбыцца ў 1999 годзе, а другая — лічыць, што выбары павінныя адбыцца ў 2001 годзе.

Такім чынам у нас ідзе ўжо поўным ходам падрыхтоўка да выбараў, пра што пішацца ва ўсіх незалежных беларускіх газэтах. Працуе Цэнтральная выбарчая камісія на чале з Ганчаром. Што тычыцца прадвыбарчага настрою нашых людзей, дык, напрыклад, калі незалежнае інфармацыйнае агенцтва БЕЛАПАН праводзіла апытаньне, мяне зьдзівіла адна лічба. На пытаньне «Як Вы лічыце, прэзыдэнцкія выбары павінныя быць праведзеныя ў 99-ым ці ў 2001 годзе?» 78 адсотак тых, хто быў намераны зноў галасаваць за Лукашэнку, сказалі, што выбары павінныя адбыцца ў 1999 годзе! Пачуцьцё справядлівасьці ў народзе ёсьць і яго зьнішчыць немажліва ніякімі мудрагельствамі палітыкаў.

Нашая апазыцыя, каторая абвесьціла прэзыдэнцкія выбары, на мой погляд, павяла сябе вельмі разумна, бо акцыя гэтая абсалютна бяспройгрышная, на якім бы этапе яна не была абарваная. Гэта дае магчымасьць прыцягнуць дадатковую ўвагу да Беларусі, гэта лішні раз падкрэсьліць тое, што пяць гадоў гэта ня сем гадоў... Па сутнасьці, у нас у краіне можа скласьціся вядомая з гісторыі сытуацыя з двоеўладзьдзем. Фактычна, мы ўжо сёньня маем у нашай краіне двоеўладзьдзе «дэ-юрэ»: Нацыянальнае Сабраньне — Вярхоўны Савет. У выніку выбараў двоеўладзьдзе можа набыць статус «дэфакто».

І яшчэ адна цікавая рыса плянуемых выбараў: зьяўленьне на беларускай палітычнай арэне постаці Міхаіла Чыгіра. Ягонае зьяўленьне карэнным чынам мяняе, на мой погляд, сытуацыю ў рэспубліцы. Чаму? Сацыялягічнае апытаньне, якое мы праводзілі напрыканцы студзеня ў горадзе Менску, паказала катастрафічнае падзеньне рэйтынгу прэзыдэнта. На пытаньне «Калі б выбары былі заўтра, каго б вы падтрымалі?» толькі 15 адсотак менчукоў адказалі, што будуць галасаваць за Лукашэнку. Гэта не азначае, што паявіліся нейкія моцныя альтэрнатыўныя постаці, каторыя маюць больш за Лукашэнку працэнт галасоў. Другое мейсца дзялілі Карпенка й Пазьняк, якія набралі па 3 адсоткі. Але вельмі істотнае тое, што каля 70 адсоткаў апытаных адказалі, што яны ня бачаць, за каго галасаваць або яшчэ ня вызначыліся. Што гэта азначае? Прафэсыяналы-сацыёлягі растлумачылі мне, што сытуацыя вельмі простая: няма раскручанага лідэра, няма ў лідэраў доступу да СМІ. А што тычыцца Чыгіра, дык ягоная постаць, я лічу, вельмі пэрспэктыўная, ён можа карэнным чынам памяняць сытуацыю ў Беларусі, таму што гарадзкое насельніцтва ў Менску ды іншых буйных гарадоў наўрад ці падтрымае Аляксандра Лукашэнку. Ягоны электарат — вёска, і гэта ўсім добра вядома.

Аднак і на вёсцы сёньня неадназначна ставяцца да нашага прэзыдэнта, нават у вышэйшым эшалоне вясковых уладаў. Адзін мой знаёмы старшыня райвыканкама, які старшынстваваў яшчэ за савецкім часам, сказаў мне, што ён як быў гаспадаром раёну пры камуністах, так ім і застаўся. І крадзе, як раней, як і ўсе крадуць. Адно толькі горш, што сьпіцца яму неспакойна, бо захоча, напрыклад, Лукашэнка падняць свой аўтарытэт у вачох свайго састарэлага электарату, ткне пальцам у сьпіс і натрапіць на ягоны раён і ягонае прозьвішча. І пойдзеш без суда й сьледзтва за краты. А калі прэзыдэнтам стане Міхаіл Іванавіч Чыгір, нічога ня зьменіцца: ён як быў, гэтак і застанецца гаспадаром, толькі вось красьці й спаць будзе спакойна. Як чалавек Міхаіл Іванавіч ёсьць мяккі, добры, становішча нашае разумее. Калі й зловяць на чымсьці, дык паўшчуваюць, выгавар дадуць, або ў скрайнім выпадку на пэнсію адправяць... І гэтак, запэўніў мяне мой суразмоўца, думаюць цяпер 99 адсоткаў кіраўнікоў-вэртыкальшчыкаў. А яны ж маюць вялікі ўплыў на простых калгаснікаў.

Наш прэзыдэнт страшна гэтага баіцца. Бо хто ж за яго будзе стаяць? Мясьніковіч будзе стаяць, галаву за яго класьці? Ён жа быў у 1994 годзе старшынёю выбарчага штабу ў Кебіча. Або Малафееў зь Лінгам прагаласуюць? Ім жа лепш спакойна сысьці на пэнсію. Самому мне праблема прэзыдэнцкіх выбараў бачыцца толькі ў адным, якое пачуцьцё ў вышэйкарэсьленых чыноўнікаў, раённых, гарадзкіх, абласных, пераможа: страх перад Лукашэнкам ці жаданьне спаць спакойна.

*Віцэ-прэзыдэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў*
**Валеры Глод**

*Працяг на старонцы 4*



**На апошняй старонцы газэты — успаміны Галіны Войцік пра тое, якім у Вільні быў у 20-х гадох наш знакаміты кірмаш «Казюк». Успаміны аздобленыя ўнікальнымі тагачаснымі фатаздымкамі дырэктара ВБГ Нэканды-Трэпкі.**

**16 ТРАЎНЯ — ВЫБАРЫ ПРЭЗЫДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ!**

## Дарагія суродзічы-віленчукі!

Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады й свайго асабіста вітаю вас з 81-мі ўгодкамі Акту 25 Сакавіка 1918 году.

81 год таму назад Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як законны, сувэрэнны ворган беларускага народу, сваёй Трэцяй Устаўной Граматай пад назвай Акту 25 Сакавіка перад усім сьветам урачыста заявіла:

«Цяпер мы, рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якая была накінутая расейскім царызмам на наш вольны й незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца вольнай і незалежнай дзяржавай».

Словамі гэтымі Рада БНР абвесьціла дзяржаўную незалежнасьць Беларусі ды парвала ўсякія дзяржаўныя сувязі з Расеяй, часткай якой дагэтуль была Беларусь.

Сёлета, у цяжкія для Беларусі часы, сьвяткуючы 81-ыя ўгодкі векапомнага Акту 25 Сакавіка, жадаем Вам добрага здароўя, непахіснай веры ў ідэалы БНР, духовай сілы, вытрываласьці й багатых плёнаў у вашай працы скіраванай на карысьць беларускай вызвольнай справы, — змаганьня за аднаўленьне дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі.

Жыве Беларускі Народ у змаганьні!
Жыве Беларусь!

*Старшыня ККБК* **Раіса Жук-Грышкевіч**

## Дарагія суродзічы!

Ад імя Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі віншуем вас з 81-мі ўгодкамі Беларускае Народнае Рэспублікі, днём 25 Сакавіка. Усё больш сумныя весткі зь Беларусі няхай не засмучаюць вас, але натхняюць быць вернымі ідэалам роднага народу, а думка пра ягонае лепшае заўтра — заахвочвае да настойлівае й творчае працы. Вашым арганізацыям зычым плённае дзейнасьці на карысьць Адраджэньня нашае Бацькаўшчыны-Беларусі.

*Старшыня ЗБВБ спн.* **Л. Міхалюк**

## На сэсіі дэпутатаў

Віленскага раённага самакіраваньня 10 лютага было пастаноўлена ўвекавечыць памяць Браніслава Тарашкевіча на ягонай радзіме ў Лаварышках, дзе наш славуты зямляк быў хрышчоны й куды хадзіў у школу. Адна з вуліцаў у Лаварышках будзе названая ягоным іменем. ТБМ Віленскага краю намагаецца, каб школа, дзе вучыўся аўтар знакамітай беларускай «Граматыкі», таксама насіла ягонае імя і каб на будынку школы была ўстаноўленая мэмарыяльная табліца ў ягоны гонар.

**Юры Гіль**

## Новыя мытныя правілы

на беларуска-літоўскай мяжы, якія пачалі дзейнічаць з 15 лютага, сталіся галоўнай «навіной» для літоўскіх беларусаў. Паводле гэтых правілаў значна ўскладніўся парадак перавозу цераз мяжу беларускіх прадуктаў харчаваньня, што значна пагоршыла й без таго жабрацкі матар'яльны стан нашых землякоў, якія маюць родных і сваякоў у Беларусі. Згодна традыцыі яны езьдзяць дапамагаць ім у гаспадарцы, а потым вязуць дахаты сала, мяса, яйкі, малако, бульбу ды іншую гароднiну й садавіну. Людзі абураюцца, што на мяжы іх прымушаюць выкідаць у сьмецьце матчыны, цешчыны прысмакі. Літоўскія мытнікі, на якіх абрыньваюцца праклёны, тлумачаць, што гэткім чынам літоўскі ўрад змагаецца з наплывам спэкулянтаў, каторыя купляюць у Беларусі танныя прадукты ды перапрадаюць у Літве.

**Сяргей Вітушка**

## Пачатак «стодзёнкі»

— ста дзён да заканчэньня школы — быў весела адзначаны 19 лютага ў Віленскай беларускай школе імя Ф. Скарыны. Асабліва радаваліся й дурэлі дванаццацікласьнікі, бо ў гэты дзень ім апошні раз дазвалялася пабыць дзецьмі. З ранку яны елі сьвяточную кашу — такая традыцыя ў нашай школе. А вечарам былі пажаданьні будучым выпускнікам посьпехаў у вучобе й добрага шляху ў жыцьці. Асобна павіншавалі іх мы, адзінаццацікласнікі, таму што пасьля іх мы пераймаем «уладу» ў школе. Пасьля ўрачыстасьцяў і віншаваньняў дванаццацікласнікі паказалі свой канцэрт, а потым была дыскатэка. Шчасьлівага вам шляху, сябры!

**Макоўская Алеся**

## «Падставы супрацоўніцтва

беларускіх і літоўскіх недзяржаўных арганізацыяў» — так называўся сэмінар, наладжаны цэнтрам «Супольнасьць» у Менску 6-7 сакавіка. Дзесяць гадоў таму, у часе г. зв. «перабудовы», сувязі й супрацоўніцтва беларускіх і літоўскіх нефармалаў былі вельмі інтэнсыўныя й прадуктыўныя. На жаль, пазьней гэтыя кантакты абарваліся, таму што Літва й Беларусь пайшлі рознымі шляхамі разьвіцьця: Літва — у дэмакратычную Эўропу, а Беларусь — назад, у Савецкі Саюз. Аднак, нягледзячы на розныя дзяржаўныя стратэгічныя кірункі, былыя партнёры могуць і павінныя ўзнавіць супрацоўніцтва. Такі быў галоўны вынік дыскусіяў на сэмінары. У склад літоўскай дэлегацыі ўваходзіў сябра рэдакцыі газэты «Рунь» Сяргей Вітушка. У сваім выступленьні ён абгрунтаваў выключную ролю беларускай літоўскай дыяспары ў справе аднаўленьня двухбаковага супрацоўніцтва.

**А. М.**

## Імпрэза прысьвечаная драматургу Ф. Аляхновічу

адбылася ў пачатку сакавіка ў дамкох ТБК. Даклад пра жыцьцёвы й творчы лёс нашага знакамітага драматурга рабіла Ніна Пяткевіч, выкладчыца пэдунівэрсытэту. Успамінамі пра Францішака Аляхновіча падзяліўся з прысутнымі сп. Хведар Нюнька. Затым была паказаная відэастужка аб становішчы ў Беларусі, дасланая ў ТБК нашымі землякамі з далёкай Аўстраліі.

**Павал Саўчанка**

У сувязі са сьмерцю **Міхася Петрукевіча** Таварыства Беларускай Культуры ў Літве выказвае глыбокае спачуваньне сям'і й блізкім супакойнага.




## Шэсьць гадоў працаваў

над першым томам «Архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі» вядомы перакладчык, філёляг і гісторык Сяргей Шупа. Прэзэнтацыя гэтага тому, які складаецца з двух дыхтоўных, аб'ёмістых, надзвычай прыгожа аздобленых кнігаў, адбылася 16 сакавіка ў «Рускай галерыі». Вельмі прыемна, што «Архівы» надрукаваныя ў нашай гістарычнай сталіцы Вільні, з дапамогай рэдакцыі газэты НАША НІВА, і што першы том выйшаў якраз напярэдадні 81-ых угодкаў БНР. Плён працы Сяргея Шупы — найвялікшы ўклад у падмурак беларускай гісторыі, у справу нацыянальнага адраджэньня. Наперадзе — укладаньне й падрыхтоўка да друку другога тому. Кнігу можна набыць у віленскай рэдакцыі газэты НАША НІВА. Тэлефон: **62-50-88**, адрас кнігарні ў Internet ***http://www.kraj.org***

**А.М.**



Збор сродкаў на помнік **Леваніду Каралю.**
75 97 28 ☎ 61 65 32.

*Сьвяткаваньне 81-ай гадавіны ўтварэньня БНР адбудзецца ў нядзелю* ***28 сакавіка*** *ў Доме настаўніка а* ***15.00***

*АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ*

Інфармацыя
пра набыцьцё сымбалічнага
**грамадзянства БНР:**
**72 55 95** або **61 65 32.**



## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ:

**Алесь Алехнік.**
**«Пад бел-чырвона-белым (Memento patriam).**
Выд. «Рунь», Вільня, 1999;

**Беларусы Балтыі: ўчора, сёньня, заўтра. Сшытак першы.**
Выд. «Рунь», Вільня, 1998;

**Марыян Пецюкевіч.**
**У пошуках зачараваных скарбаў.**
Выд. «Рунь», Вільня, 1998;

**Лявон Луцкевіч.**
**Вандроўкі па Вільні.**
Выд. «Рунь», Вільня, 1998;

**Юліяна Вітан-Дубейкаўская.**
**Мае ўспаміны.**
Вільня, 1994;

**Чэслаў Кудаба.**
**Па Віліі.**
Выд. «Полымя», Менск, 1992;

*— можна набыць, замовіць або атрымаць у падарунак на Жыгіманту 12-3 у* ***хаце-чытальні ТБК*** *ад* ***11.00*** *да* ***15.00*** *штодня, апрача нядзелі й панядзелка.*

**Беларуская група дзяцей дашкольнага ўзросту**
ствараецца
ад пачатку 1999 г.
на базе дзіцячага садка N151.

Адрас садка: **Justiniškių 45**.
Тэл.: **42 90 75**, Галіна Баран.

## Да ўвагі беларусаў-каталікоў

Замаўляйце імшы за супакой душы памерлых, бярыце шлюб, хрысьціце дзяцей, маліце Бога аб здароўі ў касьцёле Сьв. Барталамэя — адзіным касьцёле ў Літве, дзе служба адпраўляецца па-беларуску.

Пачатак службы:
**11.00** — нядзелі ды сьвяточ. дні
**18.00** — у будні.

Адрас нашага касьцёла: **Užupio, 17.**
А даехаць можна аўтобусамі **NN 4, 10, 11, 27, 37** ці тралейбусам **N 8** да прыпынку "Užupis".

### Каляды

Каляды. Пасярод начы
ступае Божанька па сьнезе.
Празрысты месячык уверсе
і саграvae, і маўчыць.

Як быццам творыцца Імша,
Імша ўрачыстая пад небам.
Хрыстовым Целам — Божым Хлебам
сьвятая корміцца душа.

Куды прапаў мой вечны страх,
які я высмактала ў сосцы?
Згубіўся недзе ў цёмнай вёсцы
у тых засьнежаных кустах.

Памерці, у галечы жыць —
больш не баюся анічога.
Іду сьцяжынаю да Бога.
Празрысты месячык дрыжыць.

### Беларусь-дзяўчынка

Беларусь, ты — дзяўчынка-падлетак,
вытры з вочак зялёныя сьлёзы
ды бяжы праз квяцісты палетак —
Кліча Божа цябе на нябёсы.

Зачыні свае даўнія страхі —
хай галоднымі курчацца ў склепе.
Панясуць цябе вольныя птахі,
груганы цябе тут не зачэпяць.

Будзеш правіць сваёю зямелькай,
шанаваць цябе будуць сястрычкі.
Будзеш Богу сьвятою нядзелькай
шнураваць на нагах чаравічкі.

### Анёлы Гародні

Сяджу перад Фарным касьцёлам
пры Богу на лаўцы.
Гародня віруе наўкола
на пляцы.

Стараецца час незваротны.
Яму не належаць
анёлы спрадвечнай Гародні
на вежах.

І выгнаны з дому сабачка,
і люд гэты просты...
І я, і пад Крыжам жабрачка —
мы сёстры...

Але прыбядняцца чаго там!
Мая гэта лаўка.
Зьвініць ва мне боская нота
і ласка.

### Бальсан

Нядзелькай сьветлаю хадзіла,
бальсан, сармацкае кадзіла,
казельчыкі, кацíну мяту
сушыць закідвала на мату.






*З **Данутай Бічэль-Загнетавай** наш чытач, пэўна, добра знаёмы. Яна — клясык навачаснай беларускай літаратуры, аўтар шматлікіх паэтычных кніг, пра яе напісана нямала літаратуразнаўчых артыкулаў. Ейную манеру пісьма, рытм і рыфму, ня зблытаеш ні зь якой іншай: здаецца, што вершамі нашай знакамітай паэткі прамаўляе сама прырода, сама беларуская зямля. У нейкай іншай краіне сёньня б выдалі дыхтоўны збор твораў Дануты Бічэль-Загнетавай, а ў нашай... яе ня так даўно ўлады звольнілі са створанага ёю Гародзенскага музэю М. Багдановіча ды вось (стараньнямі сяброў) выдадзены танюткі, мізэрным накладам (299 асобнікаў) зборнічак новых вершаў «Нядзелька».*

**А. М.**

### Васіль Быкаў малюе лодку вясной на беразе Нёмана

Там лёд расстрэсвае вясна.
Чакаем добрую паводку.
Ужо Васіль малюе лодку,
прыбег на Нёман давідна.

Ён выдаў кнігу не адну,
адзін, як Нёман, задумёны.
Над імі каркаюць вароны.
Чытае сьвет яго вайну.

А тут ня сьвет, а блізкі сьвет.
Усіх бы тут пазамяталі.
Тут не ў пашане Божы талент —
людзей ня любіць самаед.

Мазгі праела ім іржа.
Таму тут кожны свойскі хлопец
задушыць Быкава і ўтопіць,
прыб'е цьвікамі да Крыжа.

Сталіца кліча не адна.
Шануе геніяў Эўропа...
Даесьць і Быкава хвароба,
праходзіць тут яго вайна.

Сярод зьдзічэлых воўчых зграй
тварыць, гібець, як небараку,
усё жыцьцёісьці ў атаку
і паміраць за родны Край.

### Сьніцца мне хата

Сьніцца мне хатка,
нізкі парожак.
Бог не застрэміць
стомленых ножак.

Лапкі там грэе
Бонка старая,
тая, што ў раі
кветкі зьбірае.

Сонейка ў поўдзень
ткнецца да клямкі —
сонныя вочкі,
носік у плямкі.

Нейкі вандровец
глядзіць вінавата.
Твар непаголены.
Гэта ж мой тата.

# НЕПРАЧЫТАНАЯ «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»

*Пачатак у N21*



Якуб Колас узараваўся, верагодна, на антычнай літаратуры. Кампазыцыйная пабудова першага разьдзелу паэмы нагадвае лад даўніх грэцкіх трагедыяў. «Лесьнікова пасада» — уступ да Коласавага твору — пачынаецца ўзьнёсла-велічным пралогам: «Мой родны кут, Як ты мне мілы!». З падобным пачуцьцём вітаў Бацькаўшчыну й Талеф, герой аднайменнай Эўрыпідавай трагедыі: «Зямля маіх бацькоў, мяжа Пялопава, паклон табе!» Праз два тысячагодзьдзі пасьля Эўрыпіда аўтар «Слова пра паход Ігараў» з сумам усклікае: «О, руская земле! Уже за шеломянем еси!» І Адам Міцкевіч, назаўсёды адлучаны ад роднай Наваградчыны, летуценіў: «О Літва, мая Айчына! Ты як здароўе...»

У творах антычных клясыкаў дзеяньне часта перапыняецца хорам. Таксама і ў паэме мы бачым устаўкі, якія, здавалася б, не адпавядаюць эпічнасьці твору. Асабліва характэрны прыклад —пралог з «Лесьніковай пасады». І ў грэцкіх клясыкаў чытаем «староньнія» разважаньні. Шмат іх, прыкладам, у Агатона (448-405 г. д. н. э.), трагедыі якога вылучаюцца выштукаваным, як і паэма Коласа, стылем. Агатон асабліва шчодра ўводзіў у свае творы песьні хораў, каторыя не лучыліся з агульным дзеяньнем, а былі адвольнымі ўстаўкамі.

Аднак прызнаньня й высокай ацэнкі Я. Колас заслугоўвае, ведама ж, не праз насьледаваньне антычнай клясіцы. Ён ня толькі абраў адпаведную эпічнай задуме, вечную, касьмічную тэму — зямля й чалавек — а творча ўвасобіў яе ў высокамастацкіх вобразах, па-новаму распрацаваў. Гэтак паводле эпасу «Праца й дні» Гесіёда праз сялянскую працу здабываецца павага людзей і ласка багоў. Паводле «Георгікаў» Вяргілія праз сялянскую працу чалавек спасьцігае свае здольнасьці ды правілы Божага ладу ў сьвеце. Новым, значна больш гуманістычным ды, можна сказаць, касьмічным сэнсам напаўняе гэты від чалавечае дзейнасьці аўтар «Новай зямлі». Ён падае сялянскую працу за інтэгральную частку прызначэньня, нават місіі чалавека, наканаванай Усявышнім.

Бог-творца паводле свайго вобразу й падабенства стварыў чалавека таксама творцам. І даў яму зямлю, каб ён мог спраўдзіць свой творчы патэнцыял. Я. Колас выказвае гэтую думку геніяльна проста, параўноўваючы вынік чалавечай працы з Божым чынам: «І ажывіліся амшары, Запахла сьвежаю ральлёю, Як бы сам Бог тут над зямлёю, Прайшоў і глянуў міласьціва.» Гэтыя радкі разьдзелу «На першай гаспадарцы» былі напісаныя паэтам яшчэ ў турме, скуль вынікае, што ўжо на самым пачатку стварэньня «Новай зямлі» Колас ясна ўсьведамляў менавіта творчы сэнс працы на зямлі, ейную духовую повязь з Божым макракосмасам. Міхал — просты селянін і адначасна Божы абраньнік, пераўтваральнік зямлі. Як і належыць такой асобе, ён ва ўсіх сваіх дзеях, цягам усяго жыцьця кіруецца хрысьціянскай маральлю, каторая грунтуецца на Божых запаветах. Ня можа ня ўразіць, прыкладам, шчырая, братняя любоў Міхала й Антося. Яны нібыта наўмысна супрацьпастаўленыя біблейным Каіну ды Авелю. А вось Міхал на жытнёвым палетку: «Ды возьме ў пальцы асьцярожна Яшчэ нясьпелы і парожны Ён колас жытні і паглядзіць, Рукою лёганька пагладзіць, Нібы сынка свайго малога...» Як сапраўды хрысьціянін паводзіць сябе Міхал у іншых жыцьцёвых сытуацыях. Ён спачувае свайму ворагу, ваўку, які трапіў у Нёманаў стрыжэнь і праваліўся пад лёд.

Міхал — чалавек Сусьвету, Божы сын, як і ўсе іншыя. Таму Міхалавы мары й пачуцьці падобныя да адвечных памкненьняў іншых людзей, незалежна ад месца й часу іхняга жыцьця. Вось як, прыкладам, бачыцца яму родная вёска: «Там, угары, дальш зпа-над Нёмна, Сяло глядзела зьсіня-цёмна: Над ім стаяў дым белаваты...» Комін і дым выступаюць тут сымбалямі роднага дому, сямейнага цяпла, як калісьці й Адысею, каторы, імкнучыся да сваёй Ітакі, бачыў — у марах — дым з агменяў роднага паселішча.

Штопраўда, зямля патрэбная Міхалу, «каб з панскіх выпутацца пут», каб мець «наймацнейшую аснову і жыцьця першую умову», бо толькі зямля «ня зьменіць і ня здрадзіць». Але думка Коласавага героя на гэтым не абмяжоўваецца. І тут праявілася геніяльнасьць нашага народнага паэта: ён разам зь Міхалам прыходзіць да разуменьня сапраўднага, Боскага прызначэньня зямлі. Яна патрабная дзеля пераўтварэньня Сьвету «на новы лад, каб жыць нанова».

Міхал памірае, пераможаны хваробай, хваробай цела, але дух ягоны не скароны. Перад абліччам усемагутнай Сьмерці ён не выракаецца свайго наканаванага Богам прызначэньня ды даручае брату, свайму другому «я», прадоўжыць місійную справу тварэньня «новай зямлі»:

*Зямля... зямля... туды, туды, брат,*
*Будуй яе, ты дай ёй выгляд...*
*На новы лад, каб жыць нанова...*

**Зьдзіслаў Сіцька**

*Працяг на старонцы 1*

## 2. Палітыка нацыянальнай здрады

... Мы выказваем сваю падтрымку Вярхоўнаму Савету 13-га скліканьня, як адзінаму прадстаўнічаму й заканадаўчаму воргану РБ. Усе ворганы ўлады, створаныя прэзыдэнтам, зьяўляюцца нелегітымнымі й ня маюць законнага права на йснаваньне. Таму мы падтрымліваем пастанову ВС аб прызначэньні выбараў Прэзыдэнта РБ. Сялянская партыя не прызнае вынікаў так званых рэфэрэндумаў 1995 і 1996 гадоў, а апошні расцэньвае як дзяржаўны пераварот, праведзены Лукашэнкам з дапамогай расейскіх палітыкаў.

Сялянская партыя пратэстуе супраць утварэньня саюзу Беларусі з Расеяй і ўважае падпісаныя дакуманты антыканстытуцыйнымі. Дзейнасьць Лукашэнкі ўсё больш скіроўваецца на пераўтварэньне дзяржаўных структураў Беларусі ў каляніяльную адміністрацыю мэтраполіі...

Сялянская партыя адназначна выступае за права ўласнасьці на зямлю. Зямля — галоўнае нашае багацьце. У Беларусі на душу насельніцтва прыпадае два гектары тэрыторыі (!) — амаль па адным гектары сельгасугодзьдзяў ды па 60 сотак ворнай зямлі. Паводле гэтых пакашчыкаў нашая краіна займае першае месца ў Эўропе. Але зямля сама багацьця не дае. Ёй патрэбен гаспадар. Прыватная ўласнасьць на зямлю ёсьць ня мэта, а сродак. Яна дае магчымасьць закласьці зямлю ў банк, атрымаць крэдыт, купіць тэхніку, насеньне, угнаеньне і самааддана працаваць. Адсюль лёзунг сялянскай партыі: «За вольную працу на ўласнай зямлі!»

Міжнародны вопыт паказвае, што ўсе краіны выходзілі з крызісу шляхам зямельнай рэформы, шляхам адраджэньня сяла й сялянства. Нават кітайцы, якія яшчэ прытрымліваюцца камуністычнай ідэі, распусьцілі камуны, аддалі зямлю сялянству, забясьпечылі харчаваньнем сябе ды прадаюць сельскагаспадарчую прадукцыю суседнім рэгіёнам Расеі.

Яшчэ пяць гадоў таму Васіль Старавойтаў зрабіў прысуд калгаснай сыстэме. Ён сказаў: «У калгасе няма такой сілы, якая б прымусіла чалавека добра працаваць». Менавіта адсутнасьць матывацыі працы, безгаспадарчасьць, шматлікі кіраўнічы апарат ды іншыя недахопы калгаснай сыстэмы робяць сабекошт ейнай прадукцыі вышэйшым за сусьветны. Такую прадукцыю немажліва рэалізаваць у рынкавых умовах.

Генадзь Карпенка адзначыў, што больш паловы беларускіх калгасаў ёсьць нерэнтабельныя. А мы лічым, што рэнтабельнасьць астатняй паловы трымаецца на бясплатнай працы калгасьнікаў. Калі б ім заплаціці нармальны заробак, дык усе б калгасы збанкрутавалі. Гэтую думку падцьвердзіў і былы міністар сельскай гаспадаркі й харчаваньня Іван Шакола. «Сытуацыя, — сказаў ён, — сёньня складаецца нават не крытычная, я ўжо ня ведаю, як яе назваць. Па выніках году 600 гаспадарак будуць стратнымі. Запазычанасьць складае 27 трыльёнаў рублёў. Уся прадукцыя, якая вырабляецца калгасамі й саўгасамі, стратная. Далей так працаваць немагчыма». Праўда Лукашэнку не падабалася й міністра адправілі ў адстаўку.

Зададзімся пытаньнем, чаму ўлада трымаецца за калгасы, як п'яны за плот? Адказ даў Лукашэнка 5 сакавіка 1998 году на нарадзе АПК у Гародні: «Мы сёньня ня можам разбурыць калгасы й саўгасы таму, што гэта цэнтральная дзяржаўная структура ў вёсцы. Калі ня будзе калгасаў і саўгасаў, дзяржава ня зможа эфектыўна праводзіць сваю палітыку ў сельскай мясцовасьці». Адсюль вынікае, што прэзыдэнт менш за ўсё думае пра эфектыўнасьць сельскай гаспадаркі й галоўны ягоны клопат усялякімі спосабамі ўтрымацца пры ўладзе... Ягонымі дэкрэтамі былі зьнішчаныя рэшткі калгаснай дэмакратыі й канчаткова ўсталяванае прыгоннае права на вёсцы.

Вясной 1995 году указ прэзыдэнта дазволіў пашырыць прысядзібныя ўчасткі да 1 гектара. Здавалася б, што гэта адзін з накірункаў зямельнай рэформы. У сапраўднасьці ўлада гэтым крокам паспрабавала адцягнуць агонію калгаснай сыстэмы. Па-першае, яна задумала прывучыць калгасьнікаў жыць, як і пры Сталіне, за кошт прысядзібнай гаспадаркі, а ў калгасе працаваць амаль што за так — адрабляць паншчыну. Па-другое, моцна прывязаць вяскоўцаў да калектыўнай гаспадаркі, бо, атрымаўшы гектар зямлі, селянін трапляе ў кабалу: апрацаваць яе без калгаснай тэхнікі немагчыма. Па трэцяе, вырашыць праблему харчаваньня ня толькі вяскоўцаў, але й для большасьці гараджанаў. Ужо стала традыцыяй, што гараджане едуць да сваіх бацькоў і сваякоў вясной — на пасяўную, летам — на нарыхтоўку сена, восеньню — капаць бульбу й буракі. А дамоў вяртаюцца з торбай сала. І адносная стабільнасьць у харчаваньні ў горадзе сёньня забясьпечваецца менавіта гэтай вясковай торбай сала!

Наступны, апрабаваны яшчэ за савецкім часам, крок — гэта далучэньне дохлых калгасаў да напаўжывых. Вынік будзе адзін —абодва пойдуць на дно!..

Старэйшае пакаленьне ведае, як улады ставіліся да прысядзібных гаспадарак. Доўгія гады іх наогул хацелі зжыць са сьвету. Але яны выжылі. І цяпер, займаючы 15 адсотак зямлі, яны вырабляюць 50 адсоткаў сельгаспрадукцыі. Трэба падкрэсьліць, што дзяржава ў гэты сэктар не ўкладвае аніякіх фінансавых сродкаў, а калгасам ды саўгасам давала й дае льготныя крэдыты й датацыі, і адтэрміноўвала іхнія выплаты. А яны ўсё адно разваліліся.

Аднак і прысядзібныя гаспадаркі ня маюць будучыні. Іх нарадзіла тая самая калгасная сыстэма. Тут на адзінку прадукцыі сілы й часу траціцца больш, чым у калгасе. Жыцьцё ўладальнікаў прысядзібнай гаспадаркі можна сьмела параўнаць з катаргай. Пастаянная штодзённая праца без выхадных і сьвяточных дзён, бяз водпуску. Амаль усё робіцца ўручную. Дзеля чаго гэткія пакуты? Адказ адзін: трэба выжыць! Рэжым выжываньня зацягнуўся на чатыры пакаленьні людзей. І нашыя людзі ўжо да свайго рабскага становішча прыцярпеліся, лічаць гэта нормай жыцьця.

За гады праўленьня Лукашэнкі першыя парасткі найбольш перспэктыўнай формы гаспадараньня, фэрмэрства, амаль што цалкам вынішчаныя. Штучныя перашкоды чыноўнікаў, варожасьць калгаснага асяродзьдзя, адсутнасьць падтрымкі з боку дзяржавы паспрыялі гэтаму. Больш за тысячу фэрмэраў з словамі «Падавіцеся вы гэтай зямлёю!» вярнулі яе дзяржаве.

Сумна й крыўдна, бо яшчэ напачатку XX ст. рэформатар Пётар Сталыпін пісаў: «Пакуль селянін бедны, пакуль не валодае зямельнай уласнасьцю, пакуль ён знаходзіцца ў абцугах абшчыны, — ён застаецца рабом і ніякі пісаны закон не гарантуе яму грамадзянскай свабоды».

Лукашэнку й ягонай каманьдзе вольныя людзі непатрэбныя. Рабства ў калгасах і катарга на прысядзібных участках — вось вынік іхняй дзейнасьці. Ёсьць і больш сур'ёзнае абвінавачаньне. Сельская гаспадарка сёньня перарасла ў агульнадзяржаўную праблему. Менавіта яна забясьпечвае бясьпеку краіны. Зрабіўшы стаўку на неэфэктыўную калгасную сыстэму, рэжым падарваў бясьпеку дзяржавы. А гэта ўжо палітыка нацыянальнай здрады.

*Старшыня Беларускай сялянскай партыі* **Яўген Лугін**

# БЕЛАРУСЬ НАПЯРЭДАДНІ

## 3. Сутнасьць прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі

20 ліпеня заканчваецца кадэнцыя Лукашэнкі, г. зн. ён перастае быць легітымным прэзыдэнтам. Гэта вельмі істотна, бо спавадуе перамены і ў Беларусі ў стаўленьні да яго, і на Захадзе. Зь іншага боку, істотна тое, што Лукашэнка зьяўляецца стаўленьнікам рускіх спэцслужбаў і, дзякуючы яму й палітыцы той групы, якая склалася вакол яго, — Расея можа кантраляваць Беларусь і, наогул, мае магчымасьць уключыць Беларусь у свой склад. Гэтае кантраляваньне мы назіралі на працягу апошніх гадоў. Зараз Масква сьпяшае аканчальна анэксаваць Беларусь.

Такім чынам прэзыдэнцкія выбары хочуць выкарыстаць і расейскія палітычныя колы й спэцслужбы, і хоча выкарыстаць Беларускі Народны Фронт, каб зьліквідаваць дыктатуру ў Беларусі ды спыніць палітыку анэксіі-інтэграцыі. На выбарах сыйдуцца гэтыя два галоўныя праціўнікі. І ў гэтым парадокс, што ў выбарах зацікаўленыя й Масква, і Фронт. БНФ мае сваю канцэпцыю ліквідацыі дыктатуры, якая заключаецца ў стварэньні супольнасьці грамадзянства БНР, у падрыхтоўцы ўсеагульнага страйку, у назапашваньні сілы, у стварэньні й абраньні грамадзянскага парляманту Беларусі, які прыйме законы аб выбарах паводле зьмешанай сыстымы й правядзеньні самых выбараў у парлямант. Тэхналёгія гэтая намі добра распрацавана. Народны Фронт на працягу лютага стварыў практычна ўсе выбарчыя камісіі (а гэта 194 камісіі дый яшчэ будуць створаныя камісіі ўчастковыя). Зьвязанае гэтае з тым, што ў Беларусі апрача БНФ няма ніякай іншай сілы, якая б мела свае структуры й магла б зрабіць такую грамадзкую работу. Цяпер вядзецца працэс зьбіраньня подпісаў за кандыдата.

Тактыка Масквы. Масква, паставіўшы Лукашэнку, празь увесь час імкнулася стварыць сваю апазыцыю. Заўважым, што гэта клясычная тактыка НКВД — КГБ. Калі, скажам, імі захопліваецца ўлада, дык яны ствараюць сваю апазыцыю, каб ня мець праблемаў з сапраўднай апазыцыяй. Бо сапраўдная апазыцыя можа перамагчы й тады — крах. А так перамагае свая апазыцыя й можна маніпуляваць, трымаць уладу пад прыцэлам. Тактыка гэтая практыкавалася ў Беларусі, пачынаючы з 95 году. Работа гэтая вялася аднак на даволі прымітыўным узроўні, я б сказаў — на агентурным, таму што спэцслужбы карысталіся даволі банальнымі мэтадамі. У тым ліку — стварэньне агульнай апазыцыі, напрыклад, у той час як гэта ў прынцыпе немагчыма, бо ў Беларусі толькі дзьве рэальныя апазыцыйныя сілы, гэта БНФ і камуністы. Усе астатнія — гэта даволі маргінальныя арганізацыі, без структураў, у бальшыні сваёй створаныя тым самым КГБ. Гэтыя маргіналы здольныя рабіць заявы, рабіць шмат шуму, траскатні, атрымліваць гранты, выкарыстоўваць заходнія грошы, «пудрыць мозгі» заходнім палітыкам і г. д., але рэальнай сілы яны не ўяўляюць.

Усе апошнія гады праводзілася вышэйакрэсьленая тактыка. Хацелі стварыць нацыянальнага лідэра -- выбралі Карпенку, а цяпер кінулі, бо ўсё гэта фантомная работа. Стваралі розныя там кангрэсы, хартыі (Хартыя 97). І цяпер усё гэтае аказалася непатрэбным практычна, таму што з Масквы высунуты новы праект з нагоды прэзыдэнцкіх выбараў. Аб гэтым праекце я пісаў яшчэ год назад у артыкуле "Вяртаньне БНР". Пісаў, што стаўка будзе зробленая на Чыгіра, каторы сам падаў у адстаўку перад пераваротам, паехаў у Маскву ды атрымліваў там адпаведную падрыхтоўку. Нават мову беларускую ў Маскве вывучыў. Я тады пісаў, што Чыгір вернецца, што ўся нашая дэмакратычная "тусоўка", накшталт настваранных хартыяў, падтрымае Чыгіра, што ўсе яны пойдуць за ім, што ўсё гэта робіцца пад праект фінансаваны з Масквы.

Усё адбываецца як па нотах. Вярнуўся Чыгір, заявіў, што хоча быць кандыдатам у прэзыдэнты. Адразу пачаўся раскол у радох маргінальнай дэмакратыі. Яна з трэскамм развалілася й толькі невялічкая частачка, якая стаіць на незалежніцкіх пазыцыях, пайшла за БНФ і падтрымала маю кандыдатуру. Асноўная і агентурная частка пайшла да Чыгіра. Такім чынам ажыцьцяўляецца праект прамаскоўскай апазыцыі Лукашэнку. Праект гэты прафэсыйны, справа гэтая сур'ёзная, таму што ён зьдзяйсьняецца шляхам выбараў, якія маюць адбыцца ў тры этапы: зьбіраньне подпісаў, потым агітацыя й правядзеньне галасаваньня.

Далей, маскоўскі праект імкнецца ўсялякімі шляхамі выйграць гэтыя выбары. Ня важна, колькі прыйдзе на выбары людзей, 5 тысячаў ці 5 мільёнаў. На гэтыя выбары будзе кінутае ўсё, каб засьведчыць, што народ выбраў Чыгіра. А перамога Чыгіра будзе значыць, што ён і ягоная новая каманда гэта нібыта й ёсьць тая сіла, якая аб'яднала ўсю нацыю, якую падтрымаў народ, — што гэтая сіла нібыта ёсьць сапраўдная апазыцыя супраць дыктатуры, а не БНФ і не Пазьняк. Такім чынам нацыянальны рух, усе нашыя праблемы, барацьба за школы й Бацькаўшчыну будуць адсунутыя на маргінэс. На захадзе паўсюль будзе прымацца Чыгір, як новы лідар, якога будзе падтрымліваць і Масква, якая таксама прызнае яго й якой вельмі добра будзе маніпуляваць ім у бок далейшай анэксіі Беларусі, каторая зацягнулася з той прычыны, што Лукашэнка ставіць свае ўмовы. Лукашэнка хоча занадта дорага прадаць Беларусь за прэзыдэнцтва ў Расеі. Цяпер жа, калі Маскве ўдасца стварыць такую процівагу Лукашэнку, як Чыгір, якога яны будуць падтрымліваць і падкармліваць, — яна можа сказаць Лукашэнку, каб ён прадаваў Беларусь за мейсца губэрнатара ці, скажам, прэм'ер-міністра, віцэ-прэзыдэнта, а не, дык мы купім Беларусь у Чыгіра за капейку.

Адным словам, выглядае на тое, што Масква сапраўды можа зрабіць стаўку на Чыгіра, стаць у пазыцыю «законьнікаў» і стварыць такую сытуацыю, што Лукашэнка будзе выкінуты за борт палітыкі. Чыгір жа будзе нашмат паслухмяней і больш небясьпечны для Беларусі, таму што ён будзе дзейнічаць пад гасламі дэмакратыі, праціўніка Лукашэнкі, што, бясспрэчна, саб'е з панталыку многіх людзей. Вось чаму гэты праект небясьпечны й подлы, але гэта адзіны маскоўскі праект, кадэбоўская работа, якая зараз вядзецца й дастаткова ўжо заблытала людзям мозгі.

Другі тэзіс створаный з Масквы апазыцыі гэта, маўляў, давайце аб'ядноўвацца: БНФ ды іншыя, маўляў, прайграўшых няма, важна зьліквідаваць рэжым. Што ж, мы можам пайсьці на зьбліжэньне з тымі, хто, як і БНФ, вызначыцца адносна дзяржавы й адносна Расеі:

**— нацыянальная незалежнасьць;**

**— беларуская мова;**

**— вяртаньне сымболікі;**

**— дарогай у Эўропу;**

**— беларускі дом;**

**— ніякай інтэграцыі з Расеяй;**

**— ніякіх саюзаў, ніякай калектыўнай бясьпекі з Расеяй;**

**— адносіны на аснове права й законнасьці, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў з усімі краінамі, улічваючы й інтарэсы Расеі.**

Такая нашая дзяржаўная пазыцыя. І нашыя праціўнікі гэтай пазыцыі баяцца, таму што інакш Расея ня будзе ім дапамагаць.

Такая вось складваецца сытуацыя з выбарамі. І трэба, каб гэта ўсё разумела й міжнародная грамадзкасьць, і самі беларусы, і сябры Фронту. Зрэшты, апошнія гэта цудоўна разумеюць. І я стаўлю задачу перад сваімі калегамі, што праца павінная йсьці на перамогу. Ніякіх рэальных зносінаў з камандай Чыгіра быць ня можа, бо гэта тая самая Лукашэнкаўская каманда, толькі з другога боку. Хаця, зразумела, самому Лукашэнку гэта ў пэўнай ступені нявыгадна. Яму добра было б зрабіць, каб і ваўкі былі сытыя й козы цэлыя, гэта значыць, зьнішчыць Народны Фронт і Пазьняка, адцягнуць іх на пэрыфэрыю, а заразам і Чыгіра падвесіць. Таму беларускі дыктатар паводзіцца так нэрвова, з аднаго боку ён забараняе, арыштоўвае, а зь іншага — усе гэтыя сродкі ёсьць паўмеры для дыктатара. Ідзе й такая гульня.

Апошнім часам група Чыгіра атрымала вялікія грошы з Масквы на тое, каб купіць усю гэтак званую беларускую незалежную прэсу. Канкрэтна, ёсьць такі журналіст Томкавіч, каторы

# ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ

працуе ў газэце «Свободные новости», напалавіну заснаванай КДБ, гэтак сама як і газэта «Семь дней», «Знамя юности» (поўнасьцю кадэбоўская газэта) ды іншыя. Дык вось гэты Томкавіч паспрабаваў нядаўна падкупіць за даляры рэдактара гарадзенскай газэты «Пагоня». А калі рэдактар адмовіўся (ад даволі вялікай сумы), Томкавіч сказаў, што ўсе журналісты ўжо «ўзялі» і ўся гэтак званая незалежная прэса ўжо купленая намі. Людзі падобныя да Томкавіча — гэта цынікі й бандыты, каторыя з аднаго боку пачынаюць усыпляць грамадзкую думку (давайце, маўляў, супольна звалім Лукашэнку), а зь іншага боку купляюць маскоўскімі грашыма прэсу, стараюцца падкупіць нашыя суполкі, нашых людзей.

Такая вось перадвыбарчая сытуацыя ў Беларусі. Пакуль што, да 25 сакавіка, ідзе збор подпісаў за кандыдатаў. Улады дзе толькі можна перашкаджаюць самым антыпраўным чынам, таму што на нейкім этапе ўлады могуць зразумець, што лепей не рызыкаваць. А пакуль што йдзе даволі жорсткае змаганьне з рэжымам, ёсьць арыштаваныя й запалоханыя. Што можа атрымацца з усяго гэтага рэальна? У самым горшым выпадку будзе ажыцьцёўлены праект Масквы з Чыгіром, зьнішчаная ці то ў значнай ступені аслабленая беларуская нацыянальная апазыцыя, што прывядзе да анэксіі Беларусі. Не адразу, але прывядзе. Група Чыгіра хутчэй за ўсё будзе здаваць Маскве айчынную эканоміку, маёмасьць, гэта значыць прадоўжыць справу распачатую Кебічам. Будуць прадаваць прадпрыемства за прадпрыемствам, будуць гандляваць ільготамі, транзітам. І мы станемся жабракамі на сваёй зямлі, дзе нашую маёмасьць у сваіх руках будзе трымаць руская мафія.

Калі пераможам мы, тады гэты праект проста здохне, зьнікне й мы будзем прадаўжаць ліквідацыю рэжыму, і мы яго ліквідуем, бо сілы, якія нам удасца ўзрушыць на выбарах, будуць за намі, яны будуць мець канкрэтны плян дзеяньняў, у тым ліку і ў выбарах новага парляманту. У нас дастаткова на гэта й людзей, і структураў. Працэсы дэмакратызацыі Беларусі будуць разьвівацца.

Аднак найбольш верагодныя варыянты, якія не прывядуць ні да чаго, а толькі да нейкіх палавінчатых сытуацыяў. Скажам, на нейкім этапе выбары будуць не тое што забароненыя (яны й так нібыта рэжымам недазволеныя), а будуць зьнішчаныя магчымасьці іхняга правядзеньня. Але ў цэлым і гэта будзе вялікі мінус для дыктатуры. Такім чынам, што б дыктатура ні рабіла, для яе выбары ёсьць вельмі небясьпечны працэс.

Нашая задача, каб Беларусь, ідэя ейнай незалежнасьці не прайграла ў чарговай маскоўскай гульні. За намі вялікія сілы, за намі стаяць мільёны людзей, нашыя сэрцы, разуменьне, хоць улада й фінансы на баку нашых праціўнікаў.

*Старшыня БНФ*
**Зянон Пазьняк**

## 4. Нацыяналізм — базавае зьвяно ідэалёгіі сацыяльнай гармоніі

Палітычная эліта Расеі ўжо больш васьмі гадоў шукае нацыянальную ідэю «по всей Руси великой» і ніяк ня можа яе знайсьці. Мабыць таму ўсе расейскія СМІ запаўняюцца антынацыяналізмам і лічыцца добрай манэрай нешта кепскае сказаць пра нацыяналізм. Не адстае ад Расеі й Беларусь. Яна таксама шукае дзяржаўную ідэю: як прывабна агучыць і рэанімаваць камуністычную ідэалёгію, якая манапольна пануе ў краіне. Іран прапануе ўсёй чалавечай супольнасьці пачаць дыскусію паміж рознымі «цывілізацыямі» ў пачатку трэцяга тысячагодзьдзя...

Наогул, аналіз паказвае, што сёньня ўсё чалавецтва ў той ці іншай форме шукае альбо дзяржаўную ідэалёгію, альбо нацыянальную ідэю. У апошняе дзесяцігодзьдзе самым модным і, бадай, самым распаўсюджаным словам у палітыкаў стала слова «сэпаратызм». Палітыкі пужаюць ім адно аднаго, страшаць свае народы наступствамі сэпаратызму, бачаць у ім трагедыю нашай цывілізацыі ды вядуць зь ім барацьбу ўсімі сродкамі, уключаючы й зброю. Напраўдзе ж ідзе апошняя стадыя дэкалянізацыі народаў ва ўсіх кутках нашае плянэты, і гэта ёсьць аб'ектыўны працэс, які нельга спыніць.

Людзі, атуляючае іх асяродзьдзе ствараюць замкнёную сацыяльна-біялягічную сыстэму, якая разьвіваецца паводле пэўных законаў прыроды, — і гэтыя законы пазнаюцца чалавекам практычным шляхам. Парушэньне іх прыводзіць да разбурэньня сыстэмы (а парушаць законы прыроды можа толькі чалавек). Створаная чалавекам тэхналягічная цывілізацыя знаходзіцца сёньня ў глябальным сыстэмным крызісе. Чалавецтва ў бліжэйшае паўстагодзь-дзе павінна вырашыць глябальныя праблемы: экалёгіі, дэмаграфіі, поўнага безальтэрнатыўнага раззбраеньня, пераводу энэргетыкі на ўзнаўляльныя крыніцы энэргіі, замены дынамікі падзеньня духоўнага патэнцыялу чалавека на дынаміку ягонага росту. У адваротным выпадку катастрофа цывілізацыі непазьбежная. Такая высновa альтэрнатывістыкі.

Паўстае пытаньне: «Ці мае чалавецтва рэзэрвы? Ці можа яно мець сыстэму поглядаў, ідэяў, каштоўнасьцяў, якія, пры ўсёй іхняй разанастайнасьці, былі б скіраваныя на вырашэньне паўсталых перад цывілізацыяй праблемаў? Інакш кажучы, ці можа разьвіцьцё чалавецтва вярнуцца ва ўлоньне законаў прыроды?» Нашая цывілізацыя валодае гэткімі рэзэрвамі й іх выяўляе тэарэма Фішара, якая мае матэматычны доказ. Тэарэма сьцьвярджае: «Чым вышэй генэтычная разнастайнасьць віда, тым вышэй патэнцыяльныя магчымасьці ягонага разьвіцьця». Для чалавецтва гэтае азначае, што самая маленькая нацыя, самы маленькі народ зьяўляецца для яго найвялікшым багацьцем. Нацыя — самая вялікая каштоўнасьць, якую стварыла тэхналягічная цывілізацыя за тысячагодзьдзі свайго йснаваньня. Гэта магутны ўласьнік, каторы валодае незьлічонымі багацьцямі: генафондам, ведамі, шматвекавым вопытам пражываньня ў пэўных геаграфічных умовах на канкрэтнай тэрыторыі, пэўным менталітэтам, духовым патэнцыялам. Гэта носьбіт часткі агульначалавечых каштоўнасьцяў у выглядзе свае культуры. Менавіта нацыі ствараюць генэтычную разнастайнасьць чалавецтва, а значыць і ягоныя патэнцыяльныя магчымасьці разьвіцьця. Адсюль выснова, што штучная альбо натуральная экспансія, асыміляцыя кожнай нацыі ёсьць найвялікшае злачынства супраць міжнароднай супольнасьці, чалавечай цывілізацыі, агульначалавечых каштоўнасьцяў.

Нядаўна адкрыты закон энэргетычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў яшчэ больш павышае значнасьць тэарэмы Фішара ў сацыяльнай сфэры. Аказваецца, дзяржавы з тэрыторыяй звыш 500 тыс. кв. км. зьяўляюцца энэргетычна неэфэктоўнымі: узрастае кошт перавозак на адзінку ўнутранага валавага прадукту; розныя ляндшафта-кліматычныя зоны патрабуюць пераразьмеркаваньня вялізных матар'яльных сродкаў на дзяржаўным узроўні, каб падтрымліваць прыблізна аднолькавы ўзровень насельніцтва; дзяржаўныя законы ня могуць быць аптымальнымі для ўсёй краіны, бо яны дзейнічаюць у сацыяльным асяродзьдзі розных мэнталітэтам людзей, з рознымі духовымі каштоўнасьцямі, з рознай спэцыфікай іхняга гістарычнага вопыту. Энэргетычныя затраты на аднаго чалавека пры аднолькавым жыцьцёвым узроўні ў разгляданых краінах павялічаныя, у зьвязку з чым яны —неканкурэнтназдольныя.

На вялікі жаль, ні адзін зь вядомых палітыкаў не абапіраецца ў сваёй дзейнасьці ні на тэарэму Фішара, ні на закон энэргетычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў. З усіх дзейсных ідэалёгіяў, каторыя адлюстроўваюць тую ці іншую нацыянальную альбо антынацыянальную ідэю, ідэю дзяржавы, толькі адна знаходзіцца ў поўнай гармоніі з тэарэмай Фішара й з законам энэргетычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў. Гэтая ідэалёгія — нацыяналізм. Менавіта яна разглядае нацыю як гістарычную супольнасьць людзей, як адзінае гарманічнае цэлае з аднолькавымі асноўнымі інтарэсамі ўсіх ейных сацыяльных групаў. Нацыяналізм накіроўвае разьвіцьцё нацыі, выкарыстоўваючы насамперш унутраныя магчымасьці сваіх біялягічных, геаграфічных, выкапнёвых, зямельных, сацыяльных ды іншых рэсурсаў. Ён падтрымлівае агульнавядомыя высновы клясычнай эканоміі, паводле якой у аснове гаспадарчай дзейнасьці людзей павінныя ляжаць асабістая ўласнасьць на капітал і зямлю плюс эгаізм людзей і іхняя схільнасьць да абмену. Гэтая сукупнасьць зьяўляецца стымулятарам разьвіцьця й роста багацьця ўсяго народу. Нацыяналізм разглядае рынак і інтэграцыю як неад'емныя элемэнты тэхналягічнай цывілізацыі, якія фармуюць міжнародныя адносіны на прынцыпах разумнага прагматычнага рэалізму, зыходным і адзіным крытэрыем каторага зьяўляецца нацыянальны інтарэс, заснаваны перадусім на забясьпечаньні эканамічнай выгады, эканамічнага росквіту народу й рэалізацыі фундамэнтальных правоў чалавека незалежна ад полу, веравызнаньня й этнічнай прыналежнасьці.

Беларуская рэспубліканская партыя ўсебакова разгледзела, прааналізавала сэнс тэарэмы Фішара, закона энэргетычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў, ідэалёгіяў шавінізму, фашызму, нацыяналізму, камуністычнага экспэрымэнту, каторы доўжыўся 80 гадоў, і ягонай антынацыянальнай ідэалёгіі, — іх узьдзеяньне на разьвіцьцё чалавечай цывілізацыі. Яна прыйшла да высновы, што тэарэма Фішара, закон неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў ды ідэалёгія нацыяналізму складаюць тры крыніцы, тры састаўныя часткі новай ідэалёгіі — ідэалёгіі сацыяльнай гармоніі. Гэтая ідэалёгія пераводзіць на новы ўзровень адносіны чалавека з прыродай, чалавека з чалавекам, забясьпечвае свабоднае й раўнапраўнае разьвіцьцё ўсім нацыям плянэты й аб'ектыўна ўсім ім выгаднае. Сутнасьць іэалёгіі сацыяльнай гармоніі канцэнтравана можна выказаць наступнымі простымі дэфініцыямі:

**— Сям'я зьяўляецца базавым зьвяном нацыі, узнаўляльнікам генафонду, галоўным захавальнікам і спажыўцом нацыянальных багацьцяў.**

**— Нацыя зьяўляецца базавай ячэйкай тэхналягічнай цывілізацыі, ейным падмуркам, разбурэньне якога вядзе да дэградацыі ды разбурэньня цывілізацыі.**

**— Гарманічнае разьвіцьцё нацыі магчымае толькі пад кіраўніцтвам сацыяльнай групы ўласьнікаў пры ўмовах антыманапольных законаў.**

**— Раўнапраўны саюз свабодных нацыяў (ні ў якім разе не дзяржава нацыяў!) пры тэхналягічнай інтэграцыі (не экспансіі, не асіміляцыі!) — аснова новага ўзроўню разьвіцьця цывілізацыі.**

Ідэалёгія сацыяльнай гармоніі жорстка скіраваная супраць імпэрскіх палітычных элітаў зь іхнімі шавіністычнымі памкненьнямі ствараць імпэрыі на глебе дэнацыяналізацыі й экспансіі больш моцнымі нацыямі менш моцных, бо ў прынцыпе ня можа быць раўнапраўных нацыяў сабраных у адну дзяржаву, пра што яшчэ ў 17 ст. засьведчыў вядомы нямецкі філёзаф І. Кант.

Сёньня, калі йдзе адчайная барацьба за захаваньне незалежнасьці Беларусі, супраць генацыду беларускай нацыі, — вырашаецца не лякальная праблема адраджэньня нашага народу, а глябальная праблема выжываньня, разьвіцьця нашае тэхналягічнае цывілізацыі. Беларуская нацыянальная ідэя можа гарманічна разьвівацца ў выглядзе ідэалёгіі сацыяльнай гармоніі ды атрымаць у якасьці саюзьнікаў перадусім звыш 150 народаў Расеі (уключаючы й самых рускіх), якія фактычна выміраюць пад пятой рускамоўнага шавінізму, г. зн шавінізму тых, хто прызнае толькі рускую мову, хто згубіў нацыянальную пігментацыю, каго Масква называе «русскоязычными».

Ідэалёгія сацыяльнай гармоніі кладзе канец спэкуляцыям ідэолягаў рознага кшталту ў адносінах да ідэалёгіі нацыяналізму, да нацыі, ейнай ролі ў тэхналягічнай цывілізацыі, да тых ці іншых палітычных партыяў, плыняў, палітыкаў, грамадзкіх арганізацыяў, звычайных людзей адным пытаньнем: «Як Вы ставіцеся да тэарэмы Фішара, да закона энэргетычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў, да нацыяналізму?» Пытаньне можна задаваць завочна, праслухаўшы тую ці іншую перадачу, прамову, атрымаўшы кожную інфармацыю й самому адказаць на пастаўленае пытаньне. І тады адразу зьнікне зьнешная абалонка рэспэктабэльнасьці й выявіцца сутнасьць усялякага роду экстрэмізму, шавінізму, фашызму, антынацыяналізму. Тады словаблудзтва («крайні нацыяналізм», «агрэсіўны нацыяналізм» і г. д.) і ўсякае дадаваньне да слова «нацыяналізм» зьняважлівых акрэсьленьняў выявіць агрэсіўную шавіністычную існасьць таго самога, хто гэта гаворыць, выявіць ягоную разбуральную прыроду, антычалавечую сутнасьць ягонай ідэалёгіі. Гэтае простае пытаньне, разуменьне ягонага сэнсу, дазваляе вельмі хутка кожнаму чалавеку падняць сваю сацыяльна-палітычную адукацыю й ня быць бездапаможным у руках некампэтэнтных палітыкаў.

Беларуская рэспубліканская партыя запрашае ўсе палітычныя партыі, грамадзкія арганізацыі, дзяржаўныя ўлады, усіх зацікаўленых людзей выказаць свае адносіны да ідэалёгіі сацыяльнай гармоніі, як да джяржаўнай ідэалёгіі Рэспублікі Беларусь.

*Сустаршыня БРП, к. т. н.*
**Валеры Арцішэўскі**

## З АБШАРАЎ ВКЛ

■ 25 лютага 15 сяброў Цэнтральнай выбарчай камісіі на чале з В. Ганчаром былі арыштаваныя. В. Ганчар аб'явіў сухую галадоўку, пасьля чаго да яго былі прымененыя катаваньні.

■ У гэты самы дзень А. Лукашэнка, падчас свайго візыту ў Маскву, заявіў аб патрэбе вяртаньня ядзернай зброі ў Беларусь.

■ 12 сакавіка Эўрапарлямант прыняў рэзалюцыю адносна Беларусі, у якой улады РБ заклікаюцца не перашкаджаць выбарчай кампаніі.

■ Як заявіў адзін з высокапастаўленых членаў Нацыянальнага Сабраньня РБ, толькі небясьпека міжнароднай ізаляцыі стрымлівае беларускія ўлады ад суда над С. Шушкевічам «за развал СССР».

■ А. Лукашэнка выказаў асабістую падзяку Прэзыдэнту Літвы В. Адамкусу й міністру замежных справаў А. Саўдаргасу за тое, што яны не дазволілі наладзіць у Літве работу радыёстанцыі, якая мела весьці на беларускай і рускай мове перадачы, прызначаныя для слухачоў РБ.

■ Паводле афіцыйных зьвестак, звыш 19 тыс. трактароў не гатовыя да працы на палёх Беларусі, для астатніх жа бракуе гаруча-змазачных матар'ялаў.

■ Усё большы размах набіраюць скандалы, зьвязаныя зь дзейнасьцю ўраду Г. Вагнаруса, а гэта – таямнічая «дармовая» пастаўка электраэнэргіі ў Беларусь (РБ задаўжала больш 450 млн. літаў), зрыў дзейнасьці нафтавага тэрміналу ў Буцінге, застой у будаўніцтве ЛЭП у бок Заходняй Эўропы ды іншае.

■ Дробныя прадпрымальнікі (кірмашовыя гандляры) зноў аб'явілі галадоўку каля будынку Сойму Літвы. Галадоўка была спыненая, калі ўрад згадзіўся задаволіць 80% патрабаваньняў пратэстуючых.

■ Скончыў жыцьцё самагубствам мэр г. Вісагінаса.

■ Літоўскія ўлады зрабілі больш жорсткімі правілы ўезду ў Літву для грамадзянаў РБ. Апроч візы ім трэба мець 100 літаў (25$) на кожны дзень знаходжаньня, прадуктаў жа можна ўвозіць ня больш як паўкіляграма ды пляшку гарэлкі.

■ Як паведамляюць беларускія газэты, на Палесьсі чакаецца небывалая з 1945 году паводка. Узровень вады ў Прыпяці падымецца на 6 мэтраў. Затапленьне пагражае Чарнобыльскай АЭС.

*Падрыхтаваў* **Алег Аблажэй**

# ЛЯВОН ЛУЦКЕВІЧ ПРА АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА



*Родны дом сям'і Луцкевічаў на Віленскай, 8. Здымак Л. Луцкевіча.*

Мне пашэньціла мець не зусім звычайнага бацьку. І дзядзьку таксама. Але зь дзядзькам Іванам я ня быў знаёмы: ён памер за тры гады да майго нараджэньня. Многа я чуў, што абодва яны пакінулі значны сьлед у гісторыі майго народу. Зь дзядзькам справа больш ясная. Але адносна бацькі — дужа многа супярэчнасьцяў, бо ж гісторыкі лепяць з фактаў гісторыю як дзеці лепяць розныя фігуркі з аднаго таго самага плястыліну: можна зьляпіць галубка, а можна й чорта з рагамі. Гэтак сама й з маім бацькам.

Аднак, насамперш, я задаюся пытаньем, як і ў якой меры паўплываў ён на маю духоўнасьць, на мой лёс? Без усялякага сумліву мае погляды й жыцьцёвыя прынцыпы сфармаваліся пад уплывам сьветапогляду бацькі. Для мяне й майго брата Юрага, з каторым я разам гадаваўся, бацька быў самым высокім аўтарытэтам. І каб мне было дадзена зноў выбраць сабе бацьку, дык іншага я не выбіраў бы.

Пазьней давялося пачуць і прачытаць пра яго самае рознае. Цяпер, калі ўжо пражыў якраз стольki гадоў, колькі пражыў Антон Луцкевіч (62 гады), зьявілася моцнае жаданьне ўсё нанова асэнсаваць, лепш зразумець. Ведама ж, раблю гэтае для сябе самога, аднак, можа, жменька маіх успамінаў пашырыць поле дзейнасьці для будучых сумленных гісторыкаў, якія будуць ня толькі ведаць тую эпоху, а й шанаваць і любіць свой народ ды не азірацца на бакі, маўляў, што скажуць?

Некаторыя спагадлівыя знаёмыя заахвочваюць мяне напісаць пра тое, што я аб ім памятаю, якім ён быў у маіх вачох. Вось, напрыклад, што піша адзін зь іх: «Пішыце па-маленьку. Няхай гэта будзе не па-парадку. Я ведаю, што не выдумляць (прабачце за рэзкае слова) у такіх варунках вельмі цяжка. Націск сёньняшняга дня, думка аб тым, што трэба, а што ня трэба, — вялізны. Паспрабуйце гэта пераадолець. У будучым гісторыкі будуць Вам удзячныя...»

Бацьку я памятаю з таго часу, як памятаю сябе самога. Апошні раз бачыў яго, як мне было крыху больш за 17. Значыцца, мае ўспаміны ахопліваюць каля 15 гадоў, зь якіх большую частку я быў дзіцём, а меншую — зялёным юнаком. Усё, што адбывалася, успрымалася мной тады зусім непасрэдна, дастаткова наіўна. Зь цягам часу ўсё гэта зацерушылася пазьнейшымі наслаеньнямі: уласнымі разважаньнямі, чытаньнем кніжак пра той час, сустрэчамі са сьведкамі...

* * *

У той час, калі я зьявіўся на сьвет, сям'я нашая пражывала ў Вільні на Віленскай вуліцы, 8 у даволі вялікім і крыху дзівосным памяшканьні. (Хіба многа не памылюся, калі аднясу першыя праблiскі дзіцячай сьвядомасьці да канца 1924-га ці пачатку 1925-га году). Памяшканьне знаходзілася на другім паверсе й складалася як бы зь дзьвюх частак, у каторых нават узровень падлогі быў розны. Зь сенцаў, цераз вялізны, амаль цёмны пакой, у якім ніхто ня жыў, падымаючыся калідорчыкам на якія тры прыступкі, уваходзілася ў тую частку, дзе мы фактычна жылі. Там былі два пакойчыкі, кухня ды іншыя маленькія падсобкі. Другая «парадная» частка складалася з двух вялікіх пакояў, што глядзелі вокнамі акурат на касьцёл Сьв. Кацярыны. Нас, малых, у гэтыя пакоі амаль не пускалі, бо яны былі прызначаныя пад беларускія грамадзкія арганізацыі. Сталяваньне было тут значна вышэйшае, чымся ў нашых пакойчыках. У гэтай самай частцы месьціўся яшчэ адзін даўгі пакой з адным вакном, рабочы габінэт бацькі. За бацькавым габінэтам туліўся яшчэ адзін пакойчык з маленькім акенцам — спальня бацькоў.



*Так выглядала Вастрабрамская вуліца ў пачатку 30-ых. Старая паштоўка.*

Бацька быў дужа заняты чалавек. Аб характары ягоных заняткаў я тады ня меў дакладнага ўяўленьня, бо калі нешта й чуў, дык мала разумеў. Ведаў толькі, што ў яго заставалася мала часу, каб быць з намі, дзецьмі. Нас (мяне і брата Юрку) вельмі радавала, калі бацька дазваляў пабыць у сваім габінэце. Але здаралася гэта ня часта, бо сядзець спакойна й не перашкаджаць яму мы ж ня ўмелі, а бацьку трэба было працаваць.

У габінэце было шмат кніжак і розных папераў, каторыя чапаць нам не дазвалялася. Наогул, там было мноства дзівосных нам рэчаў. Вузкім бокам да сьцяны стаяў пісьмовы стол з старасьвецкім чарнільным прыборам, у якім была ня толькі чарнільніца, але й пясочніца з драбнюсенькім пясочкам для высушваньня напісанага тэксту. Сумняваюся, што бацька карыстаўся той пясочніцай, аднак пясок у ёй быў: сам праверыў. Стаяла на стале ажурная бронзавая рамка з фатаграфіяй маці. Была настольная лямпа з шкляным настольным абажурам, ад якой яркае сьвятло падала на стол, у той час як усё астатняе ў пакоі заставалася ва ўтульным прыцемку.

Вялікай радасьцю для нас, хлапчукоў, было таксама, калі бацька прыходзіў у «нашую» палавіну. Зь ім было заўсёды цікава. Нашыя пакойчыкі былі вельмі запушчаныя, даўно нерамантаваныя. Сьцены былі плямістыя й іх можна было не шкадаваць. Бацька маляваў нам на іх чорцікаў. Хіба хацеў выклікаць у нас зацікаўленьне да рысаваньня. Чорцікі былі сапраўдныя: з рагамі, капытамі, доўгімі хвастамі, — аднак зусім ня страшныя, толькі сьмешныя.

Калі мяне клалі спаць і гасілі сьвятло, я, баючыся цемры, казаў дарослым, што баюся чорцікаў. Тыя чорцікі, аднак, ня мелі з маёй боязьзю цемры нічога супольнага... Пазьней, як ужо быў зроблены рамонт і сьцены абклеілі новымі шпалерамі, зьніклі пад імі й чорцікі. І нам зь Юркам было іх вельмі шкада. Праўда, бацька й пасьля гэтага маляваў нам чорцікаў на паперы, зьдзіўляючы нас сваімі мастацкімі здольнасьцямі: у нас гэтак не атрымлівалася. Аднак і мы малявалі шмат, асабліва пасьля шпацыраў па горадзе, дзе хадзілі тады два дзясяткі аўтобусаў: кожны іншай маркі, іншай афарбоўкі, бо належыў розным гаспадарам. Мы ведалі ў горадзе кожны аўтобус і аўтамабіль, сустракалі іх як старых знаёмых, а потым старанна замалёўвалі ў свае сшыткі.

* * *

Гледзячы з пэрспэктывы часу, думаецца мне, што матар'яльна жылі мы тады нядрэнна. Бацькі абое працавалі. Маці — лекарам у Літоўскай клініцы. (Спэцыяльнасьць у яе была пэдыятар). І хоць прыватнай практыкай яна не займалася, аднак часам да нас заходзілі бедна апраненыя жанчыны з малымі дзецьмі на руках. І маці аглядала дзяцей, давала парады й лекі, вядома, бясплатна.

Бацька таксама меў акрэсьлены заробак. Як я даведаўся пазьней, ён ужо з 1923 году выкладаў літаратуру ў Віленскай Беларускай Гімназіі (пасьля таго, як Максім Гарэцкі выехаў у БССР). Працаваў таксама ў Беларускім музэі імя І. Луцкевіча, займаўся публіцыстыкай і, прынамсі, за частку сваіх публікацыяў меў нейкія ганарары.

Праяваў жа асаблівай заможнасьці ў нашай сям'і я не заўважаў. Памешканьні нашыя былі ня дужа абстаўленыя, мэбля хутчэй сьціплая. Ня бачыў я, каб у нас зьбіралася шмат гасьцей, адбываліся нейкія ўрачыстасьці. На дзяцей не шкадавалі. Праўда, і цацкамі нас не закідвалі, як гэта прынятае цяпер.

Бацькі мелі магчымасьць трымаць для нас няньку. Хіба за ўвесь час, што мы жылі на Віленскай, 8, нашыя нянькі мяняліся, бо нешта ніводнай я па-сапраўднаму не памятаю. Нянькі пакідалі нам зь Юркам многа асабістай свабоды. У асноўным бавілі мы час удвох і не сумавалі. Праўда, часам не абыходзілася без канфліктаў, і калі атрымоўваўся вялікі «гвалт», дык патрабавалася нянькава «інтэрвэнцыя».

Інтэлектуальнае ўзьдзеяньне нянькі абмяжоўвалася спробамі рэлігійнага ўзгадаваньня, але без асаблівага посьпеху. Нашыя скептычныя адносіны да рэлігіі — гэта, безумоўна, уплыў бацькі, каторы ставіўся да ўсіх рэлігіяў аднолькава адмоўна. Але пры гэтым перасьцерагаў нас, што нельга зьняважліва адносіцца да веруючых, бо вера дапамагае простым людзям пераносіць жыцьцёвыя нягоды й несправядлівасьці лёсу. Таму сорамна й брыдка сьмяяцца над вераваньнямі бедных людзей, накшталт нашай непісьменнай няньки, і пазбаўляць іх веры ў Бога, у нейкую вышэйшую справядлівасьць.



*Партрэт А. Луцкевіча работы мастака П. Сергіевіча. 1933 г.*

Ва ўмовах шматнацыянальнай і шматрэлігійнай Вільні ў аснову нашага ўзгадаваньня бацька імкнуўся пакласьці талерантнасьць і гуманізм. Нецярпіма ён адносіўся толькі да ўсялякіх праяваў фанатызму, шавінізму й хамства. Пад бацькавым уплывам нашае стаўленьне да рэлігіі сфармавалася не як варожае, а як скептычнае. Не прызнаючы рэлігійнай абраднасьці, я тым ня менш ня ўяўляў, што магу, напрыклад, прайсьці цераз Вострую Браму ў шапцы ці непаважна захоўвацца ў царкве або ў касьцёле.

Помню, як ужо значна пазьней, пасьля акупацыі Вільні бальшавікамі ў 1939 годзе, бацька, вярнуўшыся дамоў, быў страшэнна абураны паводзінамі тых тутэйшых людзей, which дзеля падхалімства перад новай уладай, праходзячы цераз Вострую Браму, перасталі скідаць шапкі й капелюшы (бо ж і капелюшы не заўсёды зьяўляюцца зарукай культурнасьці). Антон Луцкевіч казаў, што можа зразумець чырвонаармейцаў, ад якіх патрабуе гэтага дысцыпліна ды ідэалёгія, але мяйсцовы чалавек павінен шанаваць мяйсцовыя традыцыі й тых бабулек і дзядкоў, што кленчылі перад сьвятой для іх іконай.

Сёньня, калі я ўжо разьмяняў другую палову сёмага дзясятка, мне здаецца, што я б мог выкласьці адным абзацам тое, што некалі ўклаў мне наконт рэлігіі мой бацька: «Калі ня Бог стварыў чалавека, значыць, чалавек стварыў Бога, а таму няма патрэбы Яго баяцца. Аднак ці ж не павінныя мы шанаваць Яго як твор чалавечага розуму, як прадукт творчага пошуку, эвалюцыі, інтэлектуальнага разьвіцьця й дасканаленьня чалавецтва?»

Бацьку свайго я разумею, як атэіста. І адначасна ня бачу супярэчнасьцяў у ягоным сьветапоглядзе, калі ён перакладаў на беларускую мову Новы Запавет і псальмы. Відаць лічыў, што на акрэсленым этапе нацыянальнага адраджэньня гэта было патрабнае. Вядома — людзям, а ня Богу.

*Працяг у наступным нумары*

**Лявон Луцкевіч**

## Зварот да беларускага народу

**Дарагія Суродзічы!**

**Зноў чорная хмара вісіць над Беларусьсю. Зноў, так, як і Чарнобыльская, надыйшла яна з Усходу. У надзеі на лепшую долю, некаторыя гатовы зноў зьяднаць свой лёс з сваім адвечным захопнікам, бо ім кажуць, што народ наш не жыцьцяздольны.**

**81 год таму нашыя дзяды абвесьцілі сьвету, што яны ЁСЬЦЬ жыцьцяздольныя, і што ЯНЫ гаспадары на сваёй зямлі. Сёньня мы адзначаем гэты вялікі дзень, калі народ наш здабыў права «людзьмі звацца» і людзьмі быць.**

**У гэты памятны дзень я хацела б, каб кожны з нас задумаўся над тым, што ён можа зрабіць, каб не дапусьціць да поўнага гвалту над беларускім народам. Як не дапусьціць, каб народ наш праспаў апошнюю магчымасьць выратавацца ад новай няволі — інтэграцыі ў Расейскую імпэрыю, якая яму пагражае ў гэтвм 1999-ым годзе.**

**Рада Беларускай Народанай Рэспублікі ўжо 80 гадоў змагаецца за вольную й незалежную Беларусь. У значнай меры дзякуючы гэтаму змаганьню, мы яшчэ існуем як нацыя. Але толькі беларускі народ можа вырашыць сваю будучыню, вырашыць, ці ён хоча жыць у сваёй вольнай і незалежнай дзяржаве, ці ў расейскай правінцыі. Калі гэтага не зразумее, зноў прачнецца ў няволі. І, як кажа наш вялікі пісьменьнік Васіль Быкаў, «той раз — назаўжды». Масква больш ня выпусьціць нас з сваіх кіпцюроў, і трэба будзе ў «крывавых муках» ізноў здабываць страчаную людзкую годнасьць. На што мы можам ужо не здабыцца.**

**Дарагія Суродзічы, на пасадзе прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь сёньня ня «свой чалавек», як некаторым з Вас думаецца, а маскоўскі калябарант, які працуе выключна на карысьць імпэрыі. Месяц пасьля таго, як кляўся ў сваім наваго́днім пасланьні, што незалежнасьць Рэспублікі Беларусь рэч «сьвятая», 12 лютага ўжо гаварыў аб зьмене Канстытуцыі, аб патрэбе магутнага прэзыдэнта ў новай аб'еднанай расейска-беларускай дзяржаве, аб вялізным патэнцыяле такой дзяржавы.**

**Дарагія мае сёстры-беларускі, зьвяртаюся да Вас, бо так, як і Вы, бясконца люблю наш край, наш беларускі народ. Няўжо Вы дазволіце, каб Вашыя сыны і ўнукі зноў паміралі за чужую імпэрыю? Яшчэ не запозна сказаць Лукашэнку ды яго маскоўскім паплечнікам: годзе ўжо нас абдурваць! Мы хочам жыць у нашай уласнай дзяржаве, бяз страху, бяз войнаў, жыць дружна з нашымі суседзямі, гандляваць зь імі, але адначасна быць гаспадарамі на сваёй зямлі. Мы хочам жыць у дэмакратычнай і незалежнай Беларусі.**

**Дарагія Суродзічы, прашу й заклікаю Вас, разбудзецеся, пакуль не запозна. Не дапусьцеце да ліквідацыі нашай дзяржавы! Ад Вас залежыць будучыня Вашых дзетак, Вашых унукаў. Не пакіньце ім у спадчыне забраны, паняволены край заміж вольнай, заможнай і гордай Бацькаўшчыны. Разам мы яе адбудуем, вылечым ад ейных боляў. Але толькі Вы можаце не дапусьціць, каб яна загінула.**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

*Старшыня Рады БНР* **Івонка Сурвілла**

# Кнігі выдавецтва «Наша Ніва»

## Вільня у беларускай паэзіі

*Паэтычная анталёгія*



У кнігу ўключаныя вершы, песьні, паэмы, прысьвечаныя Вільні — ад народных песень і старажытных балядаў да клясычных і сучасных твораў. Можна напэўна сказаць, што ў найлепшых беларускіх паэтаў найлепшыя творы — пра Вільню. Абсалютны шэдэўр у гэтым шэрагу — «Пагоня» Максіма Багдановіча. Спаміж іншых аўтараў: Янка Купала, Якуб Колас, Натальля Арсеньнева, Уладзімер Жылка, Максім Танк, Уладзімер Караткевіч... У дадатку — артыкул Антона Луцкевіча «Вільня ў беларускай літаратуры». Укладальнік С.Дубавец.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (вясна-лета). 200 старонак, ілюстрацыі.

**Васіль Быкаў**

## Ваўчыная яма

*Проза*




Кнігу складуць найноўшыя творы пісьменьніка, напісаныя ім у 1998 годзе ў Фінляндыі — аповесьць «Ваўчыная яма», апавяданьні, вусныя выступы.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (вясна-лета). 200 старонак.

**Зоя Каўшанка**

## Успаміны

Словамі актыўнай удзельніцы беларускага адраджэнскага руху ў Вільні кніга распавядае пра розныя этапы гэтага руху і лёсу самой аўтаркі: Віленская Беларуская Гімназія ў міжваенны пэрыяд; Беларускі Нацыянальны Камітэт за часамі нямецкай акупацыі; хваля паваеннай беларускай эміграцыі ў Нямеччыне і Англіі; арышт супрацоўнікамі НКВД, 10 месяцаў у адзіночцы менскай турмы, ГУЛАГ...

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (вясна-лета). 200 старонак, ілюстрацыі.

## Пра падзеі на поўначы Беларусі

будзе цяпер даваць рэгулярную інфармацыю Незалежнае рэгіянальнае інфармацыйнае агенцтва «Контур-INFO» пры Рэсурсным цэнтры «Згода» сумесна зь Віцебскай філіяй ЗБС «Бацькаўшчына».

**Юрась Сьцяпанаў**

*Віцебск*

## Не засталіся староньнімі

да Кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі некаторыя вядомыя расейскія палітыкі-дэмакраты. У сваім прывітаньні яны напісалі:

*«Вы сабраліся ў вельмі ня просты для Беларусі час. Нашыя супольныя дэмакратычныя каштоўнасьці зганеныя, вольнае эканамічнае рынкавае разьвіцьцё Беларусі перапыненае. Менавіта ў гэты пэрыяд асаблівую важнасьць для народаў Беларусі набывае Ваш голас, Ваша пазыцыя, Вашы дзеяньні.*

*Увесь сьвет з трывогай назірае за небясьпечнымі тэндэнцыямі ў разьвіцьці Вашай незалежнай краіны. Але Вы не адзінокія — разам з Вамі ўсе тыя, каму свабода, дэмакратыя, правы чалавека, дзяржаўная незалежнасьць зьяўляюцца абсалютнымі каштоўнасьцямі, абарона якіх і складае мэту нашага жыцьця.*

*Мы перакананыя, што ніякія сілы рэакцыі ня могуць спыніць натуральнага дэмакратычнага разьвіцьця незалежнай і свабоднай Беларусі. У сваёй дзейнасьці Вы можаце разьлічваць на нашую дапамогу й падтрымку. Мы з Вамі. Чым складаней цярністы шлях да свабоды, чым больш цяжкасьцяў на гэтым шляху, тым вышэй каштоўнасьць заваяванай свабоды, тым надзейней падтрымка з боку народа таго, што робіць людзей вольнымі й моцнымі. Перамога будзе за намі!»*

«Вітаньне» падпісалі: **Я. Гайдар, А. Якаўлеў, А. Чубайс, С. Кірыенка, А. Янкоўскі, Б. Нямцоў, Л. Панамароў, М. Сальле, К. Баравы.**

**Увага — конкурс!**



## Карыкатура супраць дыктатуры

Газэта «Рунь» супольна зь Беларускай Асацыяцыяй Журналістаў абвяшчае конкурс беларускай палітычнай сатыры з гэтакай назвай. Пераможцаў чакаюць узнагароды. Лепшыя карыкатуры будуць апублікаваныя ў адумысловым альбоме.

**Умовы конкурса:**

*— кожны аўтар мусіць даслаць ня больш трох твораў на пададзеныя ніжэй адрасы;*

*— можна дасылаць творы як апублікаваныя, гэтак і тыя, каторыя яшчэ не публікаваліся;*

*— творы не рэцэнзуюцца й аўтарам не вяртаюцца;*

*— апошні тэрмін падачы твораў — 30 КРАСАВІКА.*

**Адрасы:**

*** «Рунь», 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania.**

*** 220030 Менск, пл. Свабоды 17-304, Юрасю Карманаву.**

**Усе ахвотныя могуць замовіць кнігу ўспамінаў Алеся Алехніка «Пад бел-чырвона-белым», пераслаўшы імянны чэк на адрас рэдакцыі «Руні» сакратару Паўлу Саўчанку (Pavel Savcenko). Кошт кнігі з перасылкай — 10 $.**



# «Казюк»

З даўніх гадоў, 4 сакавіка, у дзень Сьв. Казіміра, апекуна нашага гораду, ладзіўся ў Вільні кірмаш «Казюк», як яго называлі ў народзе. Пасьля Другой сусьветнай вайны ён быў забаронены. Але ў 70-ых традыцыя «Казюковых» кірмашоў аднавілася.

Апошнімі гадамі «Казюк» ладзіцца зь вялікім размахам: на Кальварыйскім рынку, у Старым горадзе ды ў адным з новых мікрараёнаў – Фабіёнішках. Хаця цяперашнія кірмашы па-свойму прывабныя й маляўнічыя, але мне спамінаецца «Казюк» даваенны, з часоў далёкага дзяцінства...

Тады «Казюк» ладзіўся на Лукіскім пляцы, які быў забрукаваны круглымі каменьнямі – «кацячымі ілбамі», а дрэвы расьлі з аднаго боку плошчы, справа, калі стаяць тварам да касьцёла Сьв. Якуба. Цэлую плошчу запаўнялі вазы, як тады казалі – фурманкі. Каля дрэваў стаялі вазы з абаранкамі. Якіх толькі абаранкаў не было! І вялікія, і маленькія, грубыя й ценькія, ванільныя й з макам. А называлі іх – смаргонскімі, хоць і казалі на тагачасным польскім жаргоне: «Цо то в Сморгонях не бывшы і Сморгонь не відзявшы!» Куплялі іх ахвотна, нанізаныя, як вянкі, на шнурок. Надзявалі на шыю і, ходзячы па кірмашы, грызьлі іх.

Далей, бліжэй да касьцельнага муру, стаялі бандары са сваімі вырабамі. Тут былі вялікія бочкі, у якіх гаспадыні квасілі капусту ды агуркі, малыя бочачкі, цабэркі, дзежкі, маслабойкі, начоўкі, выдлубаныя зь ліпавай калоды, лыжкі, дошчачкі да рэзаньня гародніны ці мяса й шмат чаго іншага, – усё патрэбнае ў гаспадарцы.

А больш улева было каралеўства жанчынаў. Яны раскладалі на вазох вытканае ў доўгія восеньскія й зімовыя вечары: ільняное палатно, ад грубага да зусім тонкага, прыгожа адбеленага. З такога палатна шылі тады сукенкі, блюзкі, кашулі, а нават і летнія касьцюмы: так добра пачувалася ў іх у сьпякоту! На іншых вазох рознымі калёрамі пераліваліся посьцілкі, дываны, вытканыя з воўны на льняной аснове або чыста льняныя. Карункі на іх былі геамэтрычныя: трохкутнічкі, квадраты, ромбы, паскі. Кожная майстрыха мела свой сакрэт, як фарбаваць ніткі ды які карунак падабраць.

Яшчэ далей раскладалі свае вырабы ганчары: збаны й збаночкі, місы й місачкі, спарышы, макотры, формы для велікодных «бабаў». Перадусім жанчыны куплялі гліняны посуд. Аднак ахвотна бралі й плеценыя з лазовых пруткоў кашы: вялікія для бульбы й іншай гародніны, а меншыя для зьбіраньня грыбоў і ягадаў. А яшчэ прадаваліся плеценыя ложачкі й калыскі для немаўлятаў.

Але галоўнай атракцыяй «Казюка» былі пернікавыя сэрцы, рознай велічыні, аздобленыя каляровым люкрам, з напісанымі імёнамі ці пажаданьнямі. Кожны мог купіць сабе «сэрца» паводле густу й кішэні. Гімназісты й студэнты куплялі маленькія ружовыя «сэрцанькі», дарылі іх сваім дзяўчатам або затыкалі за раменчык форменнай шапкі ці прышпільвалі на грудзёх.

Не абыходзілася на кірмашы й бяз цацак: балёны, модныя тады ёлё, чорцікі-сьвісьцюлькі, у каторых сьвіст паступова заціхаў, плюшавыя малпачкі на гумцы... Большасьць цацак была не фабрычная – іх рабілі самадзейныя майстры. Матылі на колках, якія махалі драўлянымі крыльцамі, коні, на якіх так любіць гойдацца малеча, гліняныя пеўнікі-сьвісьцёлкі, курачкі, каторыя, як парухаеш дошчачку, дзяўблі крупу, – плады фантазіі й рук майстроў.

А над усім гэтым стаяў крык, сьвіст, сьмех, дудзеньне. Зь кірмашу людзі варочаліся вясёлыя, задаволеныя. Несьлі свае пакупкі, сэрцы, абаранкі. Здараліся й розныя казусы: на плошчы, нягледзячы на брук, на «Казюка» заўсёды ўтваралася ліпчае балота, і мужчыны почасту пакідалі ў ім свае галёшы, каторыя згодна тагачаснай модзе насілі на бацінках. Ніхто не злаваўся, ня лаяўся, толькі пасьмейваліся...

На «Казюка» былі сапраўдныя народныя кірмашы – тут спатыкалася вёска й горад. Аб іх напамінаюць мне фотаздымкі настаўніка Віленскай Беларускай Гімназіі Трэпкі ды пеўнік-сьвісьцюлька, куплены Зоськай Верас у 1923 годзе для свайго сыночка. Фарба зь яго даўно аблезла, але сьвішча ён гэтак жа звонка, «па-казюкоўску», як і больш за паўвеку таму назад.

**Галіна Войцік**







### Умовы падпіскі

Як мы ўжо паведамлялі чытачам далёкага замежжа, да нас з найменшымі стратамі даходзяць імянныя чэкі. Дасылайце іх рэдактару газэты Алегу Мінкіну **(Oleg Minkin)** або сакратару Паўлу Саўчанку **(Pavel Savcenko)**. Кошт падпіскі на год – **20$**.

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў памешканьні рэдакцыі або ў кожным аддзяленьні сувязі. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

Падпісчыкам у Беларусі паведамляем адрас у Гродна:

*230023 Гродна-23, п/с 194, Дануце Бічэль-Загнетавай.* Кошт падпіскі на год -- сума ў беларускіх рублях эквівалентная **3$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпісчыкам у Расеі паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе:

*191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год – сума ў расейскіх рублях эквівалентная **5$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпісчыкам у Польшчы паведамляем адрас у Беластоку:

*Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная ***8$***.

**!** ***Для паляпшэньня працы рэдакцыі просім дасылаць допісы на адрас: «Рунь» 2001 Vilnius a/d 1021 Lithuania***

Ахвяраваньні на газэту:

***Г. Корчык** з Амэрыкі **25 $***
***Б. Кіт** зь Нямеччыны **100 $***

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў


**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы

выходзіць адзін раз на месяц
заснавальнік і выдавец
**Таварыства Беларускай Культуры ў Літве**
адрас рэдакцыі:
**2001 Vilnius, Žygimantų 12-3**
тэлефоны: **42 38 02, 61 65 32**
друк: **АТ « Спаўда»**
замова ___
наклад **1000** асобнікаў